ВАЮЙ, НАРОДЗЕ, ЗА СВАЕ ПРАВЫ! — К. Каліноўскі

ISSN 5172

ЗА ВОЛЮ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ!



# ЗВАЖАЙ

Часапіс Беларускіх Вэтэранаў. Выдае Камітэт Сувязі Былых Беларускіх Вайскоўцаў

ZVAZAJ — Veterans quarterly, published by Liaison Committee of Byelorussian War Veterans. Canada Post: 57 Riverdale Ave., Toronto, Ont.. M4K 1C2

U.S. Post: Assn of Byelorussian American Veterans, 9 River Rd. Highland Park, N.J. 08904

Год 12 Чырвень, 1986 № 2(42)

## ЧОРНАЯ БЫЛЬ САВЕЦКАЕ РЭАЛЬНАСЬЦІ

Чарнобыль... Для міліёнаў людзей назоў гэтага маленькага гарадка стаўся больш вядомым, чымся іншыя, куды больш гучныя назовы. Месца ядзернай катастрофы.. Спустошаная ад плёнаў на сотні гадоў зямля... Тлеючы поўпадзямельны пажар, супраць якога людзкая тэхналёгія пакульшто бясьсільная... І — запраўды — гэта сымбаль таго, што цяжэй накш назваць, як запраўды "чорная быль" хвальшывай і агіднай камуністычнай утопіі.

Катастрофа ў Чарнобылі — апрычоная рэнтгэнаўская здымка савецкага рэжыму. З усей ягонай бесчалавечнасьцяй, нагласьцяй і крывадушнасьцяй. Крамлёўскія верхаводы ілгалі людзям унутры СССР і за яго межамі. Прыціснутыя да сьцяны, яны намагаліся адмаўляць сур'ёзнасьць сытуацыі, звальвалі адказнасьць на дробных бюракратаў. Якую вагу хаця-бы мае іхнае паведамленьне, што ў выніку чарнобыльскага выпадку памерла двух чалавек і... "примкнувшая к ним" карова? "Памры, Дзяніс, а лепш не напішаш!" — усклікнуў некалі князь Пацёмкін пад адрасам Дзяніса Фанвізіна пасьля прэм'еры камэдыі "Недаростак". Сучасныя "недаросткі" з Крамля хлусьнёй сваей хацелі прадставіць чарнобыльскую трагэдыю вось гэтакай "пацёмкінскай вёскай". Не атрымалася!.

Адылі савецкая хлусьня ня была-б *савецкай*, калі-б ня была яна шматлікай і упартай. Побач із простым запярэчаньнем, камуністы выкарыстоўваюць і іншыя мэтады скрытай праўды. Асабліва-ж, калі гэта спалучана ізь небясьпечным для іх "нацыянальным пытаньнем".

Як ведама, чарнобыльскі выпадак здарыўся на Украіне. Хаця-нехаця, давялося цяпер гутарыць пра небясьпеку для Кіева і яго ваколіцаў. Але-ж Чарнобыль ляжыць у непасрэднай блізкасьці да Беларусі. Вецер, заражаны радыяцыяй, штурхануў ядзерную хмару ў паўночным, г. зн. *беларускім* кірунку. Магчыма, што гучыць гэта парадаксальна, аднак усьлед за самым Чарнобылем першай ахвярай радыяцыі сталася не Украіна, а менавіта Беларусь. А, між іншага, апроч згадкі пра некалькі чужаземных студэнтаў у Менску, сусьветная прэса фактычна празявала гэты аспэкт праблемы.

Радыёактыўны вецер, правандраваўшы над Беларусяй, Прыбалтыкай і Скандынавіяй, зьмяніў кірунак, і рушыў назад, зноў ударыўшы Беларусь, Украіну і Усходнюю Эўропу. Такім чынам тэрыторыя Беларусі *двойчы* атакавалася радыяцыяй. Кажная нармальная дзяржава ў такіх умовах павінна была ўвесьці экстраныя мерапрыемствы, каб ратаваць здароўе сваіх грамадзян. Але-ж у тым і трагэдыя Беларусі, што пад нагой савецкіх каляніялістаў яна не зьяўляецца "нармальнай дзяржавай". Навет у камуністычнай Польшчы насельніцтва было шырака павядомлена пра праблему і ўрад хоць нешта робіць у сэнсе прафіляктычных мерапрыемстваў. У *савецкай* Беларусі — нічога падобнага няма! Згодна традыцыяў афіцыяльнай хлусьні, каляніяльныя ўлады хутчэй гатовыя ахвяраваць увесь народ, чым прызнаць факты, што іх выкрываюць. Тым больш, калі няшчасьці прыйшлі на долю народу, які знаходзіцца пад акупацыяй "старшага брата"!..

Беларускі аспэкт чарнобыльскай трагэдыі, на вялікі жаль, затушавалі й на Захадзе. Ніхто не запярэчвае права канадыйскім Украінцам цярпець за лёс сваіх суродзічаў у СССР, але хацелася-б бачыць у іхнай прэсе і спачуваньне лёсу найбліжэйшых суседаў Украіны — Беларусаў. І ўжо абавязкава маральным доўгам сродкаў інфармацыі Канады і ЗША ёсьць разуменьне чарнобыльскай трагэдыі ўва ўсей ейнай камплекснасьці, без ігнараваньня Беларусі.

Хтосьці з наіўных лібэралаў і цяпер бачыць у Гарбачову і ягоных паслугачох людзей, якія, маўляў, змогуць "справіцца із сытуацыяй". Савецкая прапаганда прадаўжае падмалёўваць "пераможны" вобраз генсека, які, што кліча да шчырасьці, усё-такі маўчаў на першатравенскай дэманстрацыі ў Маскве пра здарэньне ў Чарнобылі. А адказнасьць ляжыць на ім, — не на нейкіх там мясцовых "стрэлачніках". Як відаць, генсеку хочацца выглядаць усюды і ўва ўсім "пераможцам".

Ну што-ж! У расейскай гісторыі быў Кутузаў Смаленскі, Румянцаў-Задунайскі; астанецца ў ёй і Гарбачоў *Чарнобыльскі*. Із кляймом, ня менш выразным, чымся тое, што ўпрыгожвае генсекаўскі лоб. А камунізм сам па сабе яшчэ лішні раз прадэманстраваў, што ў лёсах чалавецтва ён ня проста актыўны, а *радыёактыўны*...

*А. Гідоні*

Язэп Барэйка

# ГІСТАРЫЧНА-БАТАЛЬНЫ ЖАНР У БЕЛАРУСКІМ ВЫЯЎЛЕНЧЫМ МАСТАЦТВЕ XIX СТАГОДЗЬДЗЯ

(Пачатак гл. у № 1(41)

У 1822 годзе Дамель прыяжджае ў Менск. Тут ён бязвыезна й працуе да канца сваіх дзён, г. зн. да сваёй сьмерці 30-га жніўня 1840 г. ад апаплексычнага ўдару. Пахаваны Дамель у Менску, у капліцы Кальварыйскага могільніку. Заміж помніка, над ягонай магілай была павешаная карціна "Маленьне Збавіцеля", якую мастак уважаў за найлепшы свой твор.

Жывучы ў Менску, які ў той час быў глухой правінцыяй, Ян Дамель быў фактычна адарваным ад культурнага жыцьця. Усе культурныя цэнтры тагачасныя, як Вільня, Варшава, Пецярбург, былі далёка. Таму сустрэчы із запраўдным мастацтвам былі ў яго выпадковыя. Першаклясныя ўзоры старога жывапісу даводзілася яму бачыць даволі рэдка ў карцінных зборах магнатаў, у дамох буйныхураднікаў, або ў касьцёлах. Таму дасягненьні майстра жывапісу трэба аднесьці пераважна за кошт ягонае працаздольнасьці.

Творчая спадчына Яна Дамеля вялізарная. Як слушна адзначае Леанід Дробаў: "Цяжка назваць хоць адзін жанр выяўленчага мастацтва, у якім-бы мастак не пакінуў свайго сьледу". Ягоная творчасьць ахоплівае амаль усю першую палову 19 ст. Будучы чалавекам шырокаадукаваным, Дамель добра разьбіраўся ў пытаньнях гісторыі, шмат чытаў, валодаў некалькімі замежнымі мовамі. Ён добра ведаў як родную так і антычную гісторыю. У сваіх палотнах ён імкнуўся адлюстраваць найбольш яркія і кульмінацыйныя моманты гістарычнага разьвіцьця.

Аднак Ян Дамель вядомы перш за ўсё як гістарычны жывапісец. У сувязі з гэтым варта будзе прыпомніць, што разьвіцьцё гістарычнага жанру ў жывапісе Беларусі першай паловы мінулага стагодзьдзя мае цэлы шэраг асаблівасьцяў, якія акрэсьліваюцца ў першую чаргу тэй акалічнасьцю, што пасьля далучэньня Беларусі да Расеі тут яшчэ доўга захоўваліся тыя ідэялягічныя напластаваньні, якія культываваліся польскай шляхтай на працягу цэлых стагодзьдзяў.

У сваім змаганьні з расейскім прыгнятальнікам, удзельнікі польскага нацыянальна-вызвольнага руху які меў шмат прыхільнікаў на землях Беларусі, стала апэлявалі да тых старонак гісторыі, калі беларускія землі ўваходзілі ў склад Рэчы Паспалітай у форме Вялікага Княства Літоўскага. Не выпадкова тады, што шматлікія беларускія жывапісцы бралі для сваіх гістарычных кампазыцыяў сюжэты зь гісторыі гэтае супольнае дзяржавы. Апроч таго, мясцовыя мастакі намагаліся яшчэ адлюстроўваць як найбольш тыя моманты, якія былі бясспрэчна зьвязаныя зь гісторыяй роднага краю — Беларусі, званай часта паводля традыцыі Літвой.

Ян Дамель ня быў тут выключэньнем. Паводля некаторых дасьледнікаў, гістарычным тэмам ён прысьвяціў ажно 57 карцінаў. Зьместам шматлікіх ягоных палотнаў ёсьць якраз гістарычнае мінулае беларускага й суседніх народаў. Сярод іх згадаем такія, як "Сьмерць магістра крыжакоў Ульрыха фон Юнгінгена ў бітве пад Грунвальдам", "Хрышчэньне Славянаў", "Сьмерць Глінскага ў турме", "Павал I вызваляе з палону Касьцюшку", "Сьмерць князя Панятоўскага", "Хрышчэньне Вольгі", "Чарнэцкі пераплывае Піліцу", "Разьбітыя войскі Напалеона ў Вільні", "Пераправа Французаў цераз Бярэзіну", "Твардоўскі паказвае Жыгімонту Аўгусту цень яго жонкі Барбары", "Цар Аляксандар I падпісвае ў Вільні амністыю" і іншыя.

Свае раньнія творы Ян Дамель прысьвяціў падзеям, зьвязаным з канкрэтнымі гістарычнымі асобамі. Цудоўны рысавальнік, Дамель маляваў фігуры ў найбольш разнастайных і складаных ракурсах. Яго рысункі выдзяляюцца добрым веданьнем анатоміі й надзвычайным графічным выкананьнем.

Зь імем Яна Дамеля зьвязаны росквіт беларускага малярства рэлігійна-міталягічнага жанру. Ён таксама выдатны партрэтыст. Яму, між іншага, належыць копія партрэту канцлера ВКЛ Яўхіма Хрэптовіча работы Грасьсі. Значнае месца ў ягонай творчасьці займае

*******************************************

## БЕЛАРУС — ГАЛОЎНАКАМАНДУЮЧЫ НАЗЕМНЫХ ВОЙСКАЎ СССР

З мэтаю замацаваньня свае ўлады, ген. сакратар ЦК КПСС М. Гарбачоў праводзіць таксама і рэарганізацыю галоўнага камандаваньня ўзброеных сілаў Савецкага Саюзу. Гэтак, нядаўна, галоўнакамандуючым наземных войскаў быў назначаны наш зямляк генэрал арміі (1972) Аўген Іваноўскі.

Іваноўскі нарадзіўся 7.3.1918 г. у мястэчку Чарэя, што на Сеньненшчыне, у сялянскай сям'і. У 1941 г. ён скончыў Ваенную акадэмію мэханізацыі і матарызацыі, у 1958 г. — Ваенную Акадэмію Генэральнага Штабу. У арміі з 1936 году. Браў удзел у савецкай агрэсіі супраць Фінляндыі ў 1939-40 гадох. У часе нямецка-савецкай вайны быў на розных франтох, у тым ліку й на 1-м і 2-м Беларускіх. У 1945—56 гг. займаў адказныя становішчы ў Беларускай Ваеннай Акрузе, з 1959 — у Далёкаўсходняй, з 1965 г. — у Маскоўскай В. А. З чырвеня 1968 году — камандуючы войскаў Маскоўскай Ваеннай Акругі. У 1972 — 80 гадох — галоўнакамандуючы савецкіх войскаў у Ўсходняй Нямеччыне. З 1980 г. ён камандаваў войскамі Б.В.А.

Аўген Іваноўскі замяняе маршала В. Пятрова, які быў назначаны на становішча першага віцэміністра Абароны СССР. Іваноўскі ня ёсьць першым Беларусам, што займае такое высокае становішча ў савецкіх узброеных сілах. Прыгадаем хаця-бы маршала Івана Якубоўскага, які з 1967 году быў першым заступнікам міністра абароны СССР, а пасьля галоўнакамандуючым Задзіночаных Узброеных Сілаў краінаў Варшаўскага Дагавору.

Як слушна было сказана ў перадавіцы "Зважай" (гл. № 4(16): "Ахвяры для ўмацаваньня тыраніі", нам, Беларусам, ад гэтай вайсковай вярхушкі "карысьць на макавае зерне", бо ўсе яны стаялі й стаяць на службе маскоўскага імпэрыялізму, што панявольвае нашу Беларусь.

пэйзаж і бытавы жанр. Працаваў ён і як дэкаратар. Але гэтыя жанры выходзяць паза рамкі нашага артыкулу.

Шмат твораў Яна Дамеля да нас не дайшло. Рэшта параскіданая па мастацкіх музэях і галерэях Польшчы, Расеі, Летувы. Найменш іх, здаецца, якраз у Беларусі. Аднак творчасьць Дамеля — значны ўклад у разьвіцьцё беларускай культуры мінулага стагодзьдзя наагул і ў гістарычны жанр у прыватнасьці. На ягоных творах выхоўваліся шматлікія пакаленьні жывапісцаў Беларусі. Ягоная мастацкая спадчына заслугоўвае на тое, каб яму было прысьвечана шмат больш увагі, чымся гэта было зроблена дагэтуль.

Другі прадстаўнік гістарычнага жанру ў беларускім выяўленчым мастацтве 19 ст. — Міхал Кулеша. Нарадзіўся ён у 1800 г. на Лідчыне. Бацькі яго належалі да зьбяднелай беларускай шляхты. Яны мелі "нярухомую маёмасьць", якая, аднак, была настолькі нязначная, што, каб працягваць сваю адукацыю ў Віленскім унівэрсытэце, малады Кулеша вымушаны быў даваць прыватныя лекцыі рысунку й расейскай мовы дзецям віленскіх багатых людзей.

На ўнівэрсытэце, Міхал Кулеша займаўся на факультэце жывапісу і ўважаўся за аднаго з найбольш здольных вучняў Яму, як найбольш таленавітаму, прафэсар Ян Рустэм, які пасьля сьмерці Францішка Смуглевіча кіраваў катэдрай жывапісу й школа якога дала шмат здольных беларускіх жывапісцаў, што ўнесьлі значны ўклад у гісторыю беларускага выяўленчага мастацтва, часамі пазваляў працаваць у сваей майстэрні. Аб працавітасьці Кулешы сьветчыць той факт, што толькі на адной мастацкай выстаўцы 1820 году ён экспанаваў аж 25 працаў — рысункі пяром, эскізы кампазыцыяў, копіі вядомых твораў Рэмбрандта. Апрача занятку жывапісам, ён захапляўся таксама скульптурай і графікай.

Аднак закончыць унівэрсытэту Кулешу не ўдалося. За ўдзел у тайным студэнцкім таварыстве Філярэтаў у 1824 годзе ён быў прыцягнуты да адказнасьці. Адпушчаны на парукі, некаторы час жыў у Пінскім павеце, дзе быў прыватным настаўнікам у князя Гераніма Друцкага-Любецкага.

Пра далейшы лёс жывапісца захаваліся толькі адрывачныя весткі. Вядома, напрыклад, што да 1837 году ён адбыў падарожжа на Крым, дзе з даручэньня князя Варанцова выканаў шэраг пэйзажаў. У 1837 годзе ён быў назначаны казённым настаўнікам рысаваньня ў Крожах, што ў Жамойці. Мяркуючы паводля ягоных працаў, Кулеша пабываў на Падольлі, дзе намаляваў некалькі эпічных пэйзажаў, якія вобразна перадаюць прыгажосьць украінскай прыроды. У 1839 годзе мы знаходзім яго ўжо ў Горадні, а ў 1844 годзе ў Беластоку. Тут на працягу 20-х год ён працаваў настаўнікам рысаваньня ў гімназіі і ў Дваранскім Інстытуце для Дзяўчатаў.

Пра быцьцё Міхала Кулешы ў Горадні пісаў у сваім лісьце мастаку і мастацтвазнаўцу Камарніцкаму гісторык Ігнат Крашэўскі: "Кулеша — адзначаў Крашэўскі — у Горадні зьбірае літоўскія (у гістарычным значэньні гэтага слова) рэчы, але яны да гэтага часу яшчэ ня выдадзеныя". Крашэўскі называе Кулешу "лепшым з сучасных яму жывапісцаў", які, у супрацьлегласьць да многіх "'рамесьнікаў' займаецца творчай працай".

Дарэчы, пэрыяд перапіскі Кулешы з самім Крашэўскім у 1843-1853 гадоў быў найлепшым часам яго творчасьці, для якое стымулам зьяўляецца зацікаўленасьць з боку выдатнага пасьменьніка і мастацтвазнаўца Кулешавай тэматыкай. Кажны год Міхал Кулеша падарожнічае па землях былога Вялікага Княства Літоўскага, зьбіраючы краявіды архітэктуры й пэйзажаў. Некалькі зь іх выдае ў 1852 годзе ў так званых "Альбомах Міхала Кулешы". Дзякуючы Крашэўскаму, Кулеша становіцца вельмі папулярным жывапісцам, якога сучасьнікі ставілі побач з найлепшымі тагачаснымі пэйзажыстамі. У 1858 годзе яго запрасілі навет у Пецярбург і там з даручэньня прыдворных імпэратара, ён намаляваў шэраг пэйзажаў Пецяргофа й Царскага Сяла. Ён працаваў таксама ў якасьці чарцёжніка для пецярбурскіх навуковых таварыстваў — археалягічнага й геаграфічнага. Памёр Міхал Кулеша 3-га лістапада 1863 году ў Беластоку.

Пра беластоцкі пэрыяд жыцьця Міхала Кулешы пісаў ведамы дзеяч беларускае культуры мінулага стагодзьдзя Адам Кіркор: "Кулеша — кажа Кіркор, — пэнсіянер, настаўнік рысунку ў Беластоку, малюе прыгожыя пэйзажы і, бяз сумлеву, ёсьць адным з лепшых нашых пэйзажыстаў".

Пра творчасьць Кулешы вестак захавалася вельмі мала. А яшчэ менш ягоных працаў. Між тым, паводля сьветчаньня сучасьнікаў, гэта быў вельмі пладавіты мастак. Ягоная творчасьць належыць да краязнаўча-старажытнага кірунку беларускага жывапісу першай паловы 19 стагодзьдзя. Яна вырастае з рамантычнай зацікаўленасьці мастака да нацыянальнай мінуўшчыны і ейных помнікаў.

Падарожнічаючы па Беларусі, Кулеша сыстэматычна і з захапленьнем зьбірае пэйзажы помнікаў гарадоў, а таксама мясцовасьцяў, зьвязаных зь гісторыяй Вялікага Княства Літоўскага. Рознаколернымі алоўкамі, алоўкам і пяром ён малюе на паперы замкі й крэпасьці, разьмешчаныя маляўніча каля рэкаў, палацы й касьцёлы, хочачы такім чынам захаваць вонкавы выгляд нацыянальных помнікаў, што неаднойчы ўжо разбураліся. Эскізы з натуры ён кап'юе гуашай або алейнай хварбай. Такім чынам ствараюцца малюнкі палацаў у Беластоку й Харошчы, помнікаў у Белавескай пушчы й Волчыне, замкаў у Троках, Лідзе, Горадні, Камянцы, Астрозе, Міры, царквы й манастыра ў Супрасьлі. Аднак дакладны рысунак з натуры не выяўляе ў яго тэндэнцыі да інвэнтарызацыі. Таксама ў лёгкіх накідах алоўкам, падкрэсьліваных рыскай, зробленай пярынкай і белай гуашай, як і ў мякка апрацаваных і ўпрыгожаных у рысунку пэйзажах, Кулеша імкнецца стварыць маляўнічае цэлае архітэктуры й прыроды.

Такія працы Міхала Кулешы, як гістарычныя кампазыцыі "Гусары" й "Гэтман" сьветчаць пра добрае веданьне мастаком ня толькі гісторыі, але й этнаграфіі Беларусі. Як адзначае Леанід Дробаў у сваей кнізе "Жывапіс Беларусі 19 — пачатку 20 стагодзьдзя": "Тут, як выглядае, адбілася блізкае знаёмства Кулешы зь ведамым беларускім паэтам і фальклярыстам 19-га ст. Янам Чачотам". "У іх — кажа Дробаў, — відаць выразна, што выступаючы, па сутнасьці, наватарам у адлюстраваньні эпізодаў з айчыннай гісторыі, Міхал Кулеша знайшоў сугучнасьць эпосе, характэрныя дэталі й каларыт. А ў гэтым — бязумоўная заслуга жывапісца".

Майстар эпічнага пэйзажу, Кулеша адлюстроўваў ня толькі паасобныя куточкі прыроды, але і імкнуўся да стварэньня вялікіх, сынтэтычных палотнаў з панарамным адлюстраваньнем прыроды. Прыхільнасьць-жа мастака да гістарычнае тэматыкі выявілася й тут: Кулеша выбіраў пераважна месцы, дзе адбываліся буйныя

гістарычныя падзеі, або жылі вялікія людзі. Прыкладам гэтага можа паслужыць літаграфія "Мерачоўшчына", дзе намаляваны беларускі маёнтак, у якім нарадзіўся кіраўнік антымаскоўскага паўстаньня 1794 году Тадэвуш Касьцюшка (гл. "Зважай", № 1 (37).

Ня менш выразны й пэйзаж "Царква Барыса й Глеба на Каложы" ў Горадні, дзе адлюстраваная старажытная беларуская сьвятыня на высокім беразе Нёмана.

Творчая спадчына Міхала Кулешы вялікая. Да Першай сусьветнай вайны творы ягоныя можна было сустрэць у шматлікіх беларускіх гарадох, у тым ліку ў Менску і Горадні. На жаль, яна яшчэ мала дасьледаваная. Спадзяемся, што падобна як і з творчасьцяй іншых беларускіх жывапісцаў 19-га ст., вывучэньне яе будзе ажыцьцёўленае нашымі дасьледнікамі. У творах Кулешы, разам з замілаваньнем роднай прыродай, адчуваецца веліч і захапленьне сваей бацькаўшчынай Беларусяй.

Сучасьнікам М. Кулешы быў выдатны беларускі баталіст Януары Сухадольскі. Нарадзіўся ён 19.9. 1797 г. у Горадні, у сям'і зьбяднелага беларускага шляхціца. Калі яму споўнілася дзесяць гадоў, ён быў высланы ў Варшаву да дзядзькі, – "перакананага - як кажа Леанід Дробаў, – прыхільніка Напалеона". У часе адступленьня Французаў праз Варшаву ў 1812 годзе, Сухадольскаму давялося асабіста бачыць Напалеона. Гэтая акалічнасьць дазволіла будучаму жывапісцу потым стварыць у сваіх батальных кампазыцыях праўдзівы вобраз францускага палкаводца. Сямнаццацігадовым юнаком Сухадольскі быў прызначаны на ваенную службу. У 1829 годзе ён быў ужо ў чыне капітана расейскае арміі.

Здольнасьці да рысаваньня ў Януара Сухадольскага выявіліся яшчэ ў раньнім дзяцінстве. Вучыцца маляваць ён аднак пачаў ужо будучы ў кадэцкім корпусе ў Фогеля. У час службы ў варшаўскім гарнізоне Сухадольскі наведваў лекцыі ў жывапісца Брадоўскага. Жывучы ў Варшаве ён таксама капіяваў карціны ў галерэі Асалінскіх і калекцыях Красінскага. Першы буйны посьпех выпаў на долю мастака ў пачатку 20-х гадоў. Гэта была карціна "Сьмерць Варнэнчыка".

У 1831 годзе, у часе нацыянальна-вызвольнага антырасейскага паўстаньня ў Рэчы Паспалітай, складовай часткай якой была Беларусь у форме Вялікага Княства Літоўскага, Сухадольскі прымаў у ім актыўны ўдзел. Пасьля апаразы паўстаньня, ён быў змушаны выехаць за мяжу. Пэўны час жыў у Рыме, дзе наведваў майстэрню ведамага баталіста Вэрнэта, зь якім пасябраваў і дзе пачаў працаваць як баталіст. У гэны пэрыяд – 1832-1837 гады – ён малюе некалькі карцінаў з напалеонаўскай эпапэі. Яны мелі вялікі посьпех і прынесьлі Сухадольскаму славу. Гэтая акалічнасьць і дала яму магчымасьць вярнуцца на бацькаўшчыну. Ён прыбыў на Гарадзеншчыну, дзе жыла сям'я – жонка й дзеці, і некаторы час там жыў, але неўзабаве быў запрошаны ў Пецярбург і атрымаў заказ ад цара стварыць батальныя кампазыцыі на тэму вайны 1812 году. Там-жа ў Пецярбурзе ён таксама выканаў цыкл карцінаў, прысьвечаных падзеям на Каўказе.

У 50-х гадох Сухадольскі жыў у Бойме на Падляшшы, дзе стварыў ведамае палатно "Пераход Напалеона цераз Бярэзіну". Памёр Януары Сухадольскі там-жа 20-га сакавіка 1875 г. на 78-м годзе жыцьця.

За сваё доўгае жыцьцё Сухадольскі стварыў вялікую колькасьць батальных кампазыцыяў, зь якіх асабліва



Я. Сухадольскі
Пераход Напалеона цераз Бярэзіну

ўдачнымі ёсьць карціны, намаляваныя на аснове асабістых назіраньняў. (Як мяркуе Ленід Дробаў, Сухадольскі ў гады службы ў арміі падчас расейска-пэрсідзкай вайны, браў удзел у паходах фэльдмаршала Паскевіча-Эрыванскага). Большую аднак частку свайго жыцьця мастак пражыў у Варшаве, дзе й намаляваў такія творы, як "Узяцьце расейскімі войскамі крэпасьці Карс", "Перамога пад Ялдавай", "Штурм крэпасьці Абасабад", "Фэльдмаршал Паскевіч прымае дэлегацыю жыхароў Эрзурума" і іншыя. У гэтым апошнім палатне Сухадольскі выступае ня толькі як баталіст, але і як бытапісец.

Шмат з гэтых палотнаў напісаная на заказ князя Паскевіча для ягонага палацу ў Гомелі. Частка зь іх захоўваецца да сяньня ў Гомельскім краязнаўчым музэі.

Значнае месца ў творчасьці Януара Сухадольскага займае тэма згаданага намі раней антырасейскага паўстаньня 1831 году. Тэме гэтай мастак прысьвяціў цэлы шэраг сваіх лепшых твораў. Асабліва цікавае палатно "Сцэна з 1831 году". На карціне паказаная спаленая вёска, на ўскраіне якой, на папялішчы спаленай хаты, ляжыць паранены паўстанец, якому дапамагае кволая дзяўчынка. "Цікавы, – кажа Леанід Дробаў, – кампазыцыйны прыём, якім карыстаецца Сухадольскі для раскрыцьця зьместу свайго палатна. Абедзьве фігуры ён зьмясьціў у цэнтры карціны. Фонам для іх служыць адзінока тарчачы комін спаленага дому. Каб сканцэнтраваць увагу толькі на гэтай сцэне, мастак выдзяляе яе сьвятлом, рэшта-ж агортваецца паўцемрай. Гэты прыём – дзначае аўтар, – Сухадольскі паўтарае ў цэлым шэрагу іншых твораў ("Князь Юзаф пад Рашынам", "Трыумф Напалеона" і іншых).

Большасьць твораў Януара Сухадольскага – гэта ня толькі праўдзівыя, дакумантальныя апісаньні перажытых мастаком падзеяў, але й высокамастацкія абагульненьні, у якіх сродкі выяўленьня падпарадкаваныя адзінай мэце. Тут няма фальшывага пафасу, усё праўдзіва, натуральна. Ні адна група ў кампазыцыі не паўтарае іншую. Рысунак просты й выразны. Калярыт карціны напружаны, што цалкам адпавядае адлюстраванай сытуацыі.

Дэмакратызм жывапісца выявіўся ня толькі адлюстраваньнем гістарычных падзеяў, але і ў спагадлівых адносінах да простых людзей, апранутых у шэрыя салдацкія шынэлі, людзей, якіх змусілі паміраць за чужыя ім інтарэсы. Калі да ўсяго гэтага яшчэ дадамо ягоныя патрыятычныя пагляды, ягоную адданасьць справе вызваленьня свайго народу з чужацкае няволі, то Януары Сухадольскі вырастае перад намі як вялікі патрыёт і выдатны мастак, які імкнуўся ярка й натхнёна адлюстраваць гэраічную гісторыю свайго краю, і як адзін з тых, хто ў разьвіцьцё батальнага жанру ў беларускім выяўленчым мастацтве зрабіў значны ўклад.

Адным зь цікавых гістарычных жывапісцаў першай паловы 19 ст., сяньня незаслужана забытых, ёсьць вучань Яна Рустэма Ян Траяноўскі. На жаль, ніякіх біяграфічных вестак пра яго ня маем. Няведамая навет дата яго нараджэньня ні год сьмерці. Імя Яна Траяноўскага не знаходзім і ў Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі. Паводля Адама Шэмеша – гэта быў надзвычайна таленавіты чалавек. Л. Дробаў у сваей працы "Живопись Белоруссии 19 – начала 20 в." адзначае, што Траяноўскі паходзіў з Горадзеншчыны. Першапачатковую мастацкую адукацыю атрымаў у Віленскім унівэрсытэце. Адсюль ён быў выключаны за палітычныя перакананьні. Некаторы час падарожнічаў за мяжой, быў у Парыжы, Рыме, Бэрліне. Зь гістарычных кампазыцыяў Траяноўскага ў свой час былі вядомыя два абразы, аднак цяперашняе месцазнаходжаньне іх няведамае. Як слушна кажа Дробаў: "Няма сумлеву, што будучыя дасьледваньні пральюць дадатковае сьвятло на творчасьць гэтага беларускага жывапісца".

Да гістарычнага жанру зьвярталіся й мастакі, якія працавалі ў іншых жанрах жывапісу. Гэтак, майстар бытавой кампазыцыі К. Бароўскі маляваў карціны на сюжэты з антычнай гісторыі. А пэйзажыст Вінцэнт Дмахоўскі стварыў некалькі палотнаў зь гісторыі Вялікага Княства Літоўскага 13-14 ст. ст. В. Дмахоўскі нарадзіўся ў 1807 г. у вёсцы Самішчы Ашмянскага павету. Вучыўся на літаратурным факультэце Віленскага ўнівэрсытэту, але адначасна наведваў і школу Я. Рустэма. Ён быў удзельнікам паўстаньня 1831 году. З гэтай прычыны В. Дмахоўскі вымушаны быў на некаторы час эміграваць за граніцу, але ў 1833 г. зноў вярнуўся на бацькаўшчыну й жыў на Навагрудчыне да сваей сьмерці 22.2.1862 г.

Каб зьвярнуць увагу на гэраічнае мінулае свайго народу, В. Дмахоўскі часта маляваў гістарычныя помнікі на тэрыторыі Беларусі – "Руіны замку ў Гальшанах", "Замак у Крэве" і інш.

Наагул, гаворачы пра гістарычны жывапіс Беларусі першай паловы 19 ст., трэба падкрэсьліць супярэчлівы характар ягонага разьвіцьця, зьвязаны з асаблівасьцю гістарычнага лёсу беларускага народу. "У гэтым жанры, – кажа Л. Дробаў, – найбольш поўна выявіліся патрыятычныя пагляды жывапісцаў, якія імкнуліся адлюстраваць гэраічную гісторыю краю ярка й натхнёна".

Пераходзячы да другой паловы 19 ст. неабходна адзначыць, што на разьвіцьцё гістарычнага жанру ў жывапісе Беларусі 60 – пачатку 90-х гг. вялікі ўплыў зрабіла тое, што пасьля здушэньня антымаскоўскага паўстаньня Кастуся Каліноўскага 1863 году і ў сувязі з узмацненьнем русыфікацыйнага курсу палітыкі расейскага ўраду ў Беларусі, уся сыстэма агульнай і прафэсыянальнай асьветы была пераведзена на расейскі лад. З другога боку гэта спрыяла ўзмацненьню цікавасьці да гісторыі свайго краю.



Т. Дмахоўскі
Прысяга князя

Адначасна ў Беларусі былі яшчэ моцныя пазыцыі польскай і спольшчанай шляхты, якая, абапіраючыся на Беларусаў каталікоў, працягвала прапаведаваць ідэі адраджэньня Польшчы ў межах 1772 году. "Хоць пазыцыі польскай шляхты, – адзначае Л. Дробаў у сваей працы "Живопись Белоруссии 19 – начала 20 в." – былі значна падарваныя здушэньнем паўстаньняў 1831 г. і 1863 г., яна працягвала настойліва падтрымоўваць тыя тэндэнцыі ў літаратуры й мастацтве, якія спрыялі ідэялізацыі былой Рэчы Паспалітай". А гэта й было прычынай таго, што ў гістарычным жывапісе Беларусі паранейшаму зьяўляліся карціны, што адлюстроўвалі падзеі польскай гісторыі.

З другога боку, тыя мастакі, якія прытрымліваліся афіцыйнай арыентацыі, імкнуліся адлюстроўваць падзеі расейскай гісторыі, часта ідэялізуючы яе. Аднак, ня гледзячы на асобныя праявы польскага нацыяналізму й расейскага вялікадзяржаўнага шавінізму, выяўленчае мастацтва Беларусі ў цэлым стаяла на нацыянальных пазыцыях. Выбіраючы сюжэтамі для сваіх палотнаў падзеі польскай і расейскай гісторыі, мясцовыя мастакі ўсё-такі імкнуліся адлюстраваць беларускі народ, які прыймаў у гэтх падзеях актыўны ўдзел. Між тых мастакоў выдзяляецца якраз Казімр Альхімовіч, 145-годзьдзе з дня нараджэньня якога прыпала на 20 сьнежаня летась.

Лёс гэтага жывапісца склаўся так, што на працягу больш паловы свайго жыцьця ён быў адарваны ад бацькаўшчыны, жыў на выгнаньні. Аднак усей творчасьцяй мастак быў цесна зьвязаны зь Беларусяй і да канца сваіх дзён імкнуўся ўвасобіць у сваіх палотнах гістарычны лёс беларускага народу.

Нарадзіўся Казімер Альхімовіч у 1840 годзе на Лідчыне ў сям'і небагатага беларускага шляхціца. Першапачатковую мастацкую адукацыю атрымаў у віленскай гімназіі. "Відаць, тут, — кажа Леанід Дробаў у сваей працы 'Беларускія мастакі 19 стагодзьдзя', — на фармаваньне творчай індывідуальнасьці будучага мастака значны ўплыў зрабіў Кануці Русецкі, які ў тыя гады быў у цэнтры ўвагі творчай моладзі Вільні".

У 1863 годзе Казімер Альхімовіч браў удзел у нацыянальна-вызвольным антымаскоўскім паўстаньні Кастуся Каліноўскага, за што быў высланы ў Сібір, дзе знаходзіўся да 1869 году. "Вызваліла яго, — кажа Дробаў, — амністыя. Гады, праведзеныя ў ссылцы, наклалі свой адбітак на ўсю творчасьць Альхімовіча. У яго творах увесь час гучалі ноткі суму й смутку. Што дзіўнага? — пытае аўтар. І адказвае: Больш дзіўна было-б, каб ён застаўся аптымістым".

У пачатку 70-х гадоў Казімер Альхімовіч пасяліўся ў Варшаве, бо расейскі ўрад не дазволіў мастаку жыць у сябе на радзіме на Гарадзеншчыне. Аднак, ня гледзячы на гэта, Альхімовіч часта наведваў родныя мясьціны, дзе зьбіраў багаты матар'ял для сваіх гістарычных і бытавых кампазыцыяў і адкуль чэрпаў сваё мастацка-творчае натхненьне.

У Варшаве Альхімовіч наведваў рысавальную школу, якой кіраваў вядомы польскі мастацтвавед прафэсар Войцех Герсан. Ужо ў першыя гады навукі Альхімовіч праявіў выдатныя здольнасьці жывапісца. Аднак ведаў, атрыманых у школе Герсана, было недастаткова. Мастак едзе ў Мюнхэн. Тут у 1873 годзе ён пасьпяхова закончыў Акадэмію Мастацтваў. У 1875 годзе Альхімовіч накіраваўся ў Парыж і працаваў там на працягу чатырох гадоў.

У Варшаву ён вярнуўся ў 1880 годзе ўжо сталым майстрам. Да гэтага часу мастак неаднаразова выстаўляў свае творы ў Мюнхэне і ў Парыжы, дзе нязьменна карыстаўся вялікім посьпехам. "Гады, праведзеныя ў школе Герсана, — адзначае Дробаў, — канчаткова вызначылі творчае абліччa Альхімовіча. Яны абумовілі некаторыя яго недахопы: пахібкі ў калярыце і часам некаторую тэатральнасьць у пастаноўцы самой сцэны і асобаў. Але, — кажа Дробаў, — гэтыя-ж гады навечна прывязалі Альхімовіча да крэўнай, да сваей тэмы — да гісторыі".

Ён нязьменна выступаў як майстар шматфігурных бытавых і гістарычных кампазыцыяў. Сюжэты для сваіх палотнаў мастак бярэ з тых далёкіх часоў беларускай гісторыі, калі лёс беларускага і летувіскага народаў быў агульны. Так былі створаныя палотны "Хрысьціянскія пакутнікі", "Пасьля бітвы", "Пахаваньне Гедыміна" і іншыя. Гэты апошні твор — "Пахаваньне Гедыміна" атрымаў сусьветную вядомасьць. Карціна экспанавалася ў 1887-88 гадох на выстаўках у Варшаве, Пецярбургу, Львове й Сан Францыско, дзе была ўдастоена найвышэйшых узнагародаў. "У гэтай карціне, — падкрэсьлівае Леанід Дробаў, — несумненна адлюстраваліся асабістыя перажываньні мастака і яго смутак аб лёсе сваей шматпакутнай, скручанай, шыбеніцамі застаўленай радзімы".

Імкнучыся выклікаць у гледачоў цікавасьць да гісторыі сваей бацькаўшчыны Беларусі, мастак піша шэраг гістарычных кампазыцыяў, у якіх узнаўляе тыя далёкія часы, калі на тэрыторыі Беларусі панавала паганская вера. Такія палотны, як "Паганскія жрацы", "Малітва церпячых", "Багіня любві Мільда", "Сьмерць Маргіера", "Лізьдзейка з дачкою на руінах царквы Пяруна", "Апошні жрэц Літвы з дачкою Плёнтай", і іншыя сьветчаць аб выдатным веданьні Альхімовічам гісторыі бацькаўшчыны.



К. Альхімовіч
Паховіны Гэдыміна

У канцы 80-х гадоў Альхімовіч стварае гістарычныя палотны "Сьмерць Міхала Глінскага ў цямніцы" і "Падрыхтоўка да сьмерці Самуіла Збароўскага", у якіх уваскрашае гераічнае мінулае беларускага народу.

Плённа працаваў мастак і ў бытавым жанры. У гэтых палотнах ён адлюстроўвае жыцьцё й быт прыгонных сялян, батракоў і дробнапамеснай шляхты. Сюжэты для іх навеяны ўспамінамі аб далёкай бацькаўшчыне. "Жніво", "Дажынкі", "Наём работнікаў", "Хата селяніна", "Дзеці пад лесам" і гэтак далей створаныя паводля замалёвак і эцюдаў, зробленых у роднай вёсцы Дамброва.

Альхімовіч працаваў шмат і як графік. "Найбольш удалымі, вядома, — кажа Леанід Дробаў, — зьяўляюцца тыя ілюстрацыі, у якіх мастак перадаў прыгажосьць родных яму гарадзенскіх мясьцінаў, беларускіх лясоў, балотаў і пушчаў".

Прывязанасьць да роднай Беларусі, да ейнае мовы і культуры К. Альхімовіч захаваў да канца сваіх дзён (ён памёр 31.12.1916 г.). Як паведаміла Л. Дробаву дачка прафэсара Вайцеха Герсана, якая ведала Альхімовіча асабіста, мастак глыбока любіў сваю Беларусь, "краіну таямнічых бароў і людзей у лапцях і палатняным адзеньні й гаварыў на роднай яму мове".

Імкненьне адлюстраваць бачынкі роднай гісторыі назіраецца і ў творчасьці іншых жывапісцаў, што выйшлі зь Беларусі. Гэтак у другой палове 19 ст. у Беларусі жыў і працаваў сын выдатнага кампазытара Станіслава Манюшкі, гістарычны жывапісец Ян Манюшка (1855-1910).

Біяграфічных вестак пра Я. Манюшку захавалася вельмі мала. Вядома, што ягоны дзед Часлаў Манюшка быў жывапісцам-аматарам, блізкім сябрам В. Ваньковіча. Дзяцінства Я. Манюшкі прайшло ў асяродзьдзі пісьменьнікаў і мастакоў, зь якімі сябраваў ягоны бацька. Між іх быў і згаданы раней пэйзажыст В. Дмахоўскі

*(Заканчэньне ў наступным №)*

## НА КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ.

"ЯНКА КУПАЛА Й ЯКУБ КОЛАС НА ЗАХАДЗЕ" Бібліяграфія. Укл. В. Кіпель і Зора Кіпель БІНІМ, Нью Ёрк, 1985, бач. 351

Алег Бембель, "РОДНАЕ СЛОВА І МАРАЛЬНА-ЭСТЭТЫЧНЫ ПРАГРЭС", выд. ЗБВБ, Лёндан, 1985, бач. 242.

"Бібліяграфія, – чытаем у 2-м томе БелСЭ, – галіна ведаў, якая займаецца выяўленьнем, улікам, апісаньнем, сістэматызаваньнем і аналізам друкаваных (рукапісных) твораў, распрацоўкай прынцыпаў і мэтадаў бібліяграфаваньня друкаваных выданьняў. Тэрмінам Бібліяграфія абазначаюць таксама бібліяграфічныя паказальнікі, сьпісы і агляды літаратуры".

Заснавальнікам беларускай нацыянальнай бібліяграфіі трэба ўважаць вядомага беларускага бібліяфіла, бібліёграфа, публіцыста і гісторыка беларускай літаратуры Рамуальда Зямкеніча, які, хоць і нарадзіўся ў Варшаве (7.2.1881 г.), з паходжаньня быў Беларусам (ягоны бацька родам са Случчыны). Р. Зямкевіч, які дасьледаваў беларускую літаратуру старажытную і XIX ст., быў у нас адным зь першых, хто зьвярнуў увагу на вялізарнае значэньне бібліяграфіі ня толькі для літаратуры, але й для іншых галінаў навукі. Гэтак у № 17 "Нашай Нівы" за 1912 год, ён пісаў, што кажны, хто працуе на літаратурнай ніве, ведае як важная ёсьць бібліяграфія. Безь іе нельга абыйсьціся. Затым ён падкрэсьлівае, што адначасна бібліяграфія – гэта дапаможнік, які памагае нам убачыць што праароблена ў данай галіне. Дарэчы, пяру Р. Зямкевіча належыць артыкул "Беларуская бібліяграфія", які быў надрукаваны ў 1910 годзе. Такім чынам у 1985 годзе споўнілася 75 год ад заснаваньня беларускай нацыянальнай бібліяграфіі.

Відаць, гэтыя выказваньні Р. Зямкевіча й бралі, апроч іншага, пад увагу др. Вітаўт і Зора Кіпелі, укладальнікі каштоўнай бібліяграфіі працаў аб Я. Купалу і Я. Коласу, што друкаваліся на Захадзе, выдадзенай летась БІНІМ у Нью Ёрку. Кніга была падрыхтаваная з нагоды сотага юбілею беларускіх бардаў і ў сувязі з ростам зацікаўленасьці беларускай літаратурай на Захадзе наагул і гэтымі паэтамі, у прыватнасьці. У Бібліяграфію ўлучаны таксама працы пра Купалу й Коласа, што друкаваліся ў Савецкім Саюзе ў 20-30 гадох, але ня былі ўключаныя ў савецкія бібліяграфіі.

Храналягічна Бібліяграфія вельмі шырокага дыяпазону: ад пэрыяду "Нашай Нівы" да падзеяў і друкаў 1984 г. У ёй зарэгістравана ўсё, што пісалася пра Купалу й Коласа ў беларускамоўным друку на Захадзе, паза краінамі савецкага блёку, а таксама й тое, што пісалася аб іх у беларускім друку б. Заходняй Беларусі, Латвіі, Чэхаславаччыны, Летувы, ня ўлічанае папярэднімі бібліяграфіямі. Улучаныя ў Бібліяграфію і працы з друкаў іншамоўных, пераважна з ангельскіх, францускіх, гішпанскіх, нямецкіх і славянскіх.

Ахопленыя тут пераклады Купалы й Коласа ў заходня-эўрапэйскія мовы й пераклады твораў паэтаў у мовы славянскія, зробленыя на Захадзе. Улічаныя перадрукі твораў Купалы й Коласа, зробленыя на Захадзе й перадрукі выданьня з б. Заходняй Беларусі.

Бібліяграфія ахоплівае таксама матар'ялы перадачаў радыё "Свабода", радыё "Ватыкан", беларускае сэкцыі этнічнага радыё ў Аўстраліі (Сыднэй), і радыё "Нёман" (Чыкага). Трэба шкадаваць, што ня былі ўзятыя пад увагу матар'ялы пра паэтаў, якія перадаваліся беларускай сэкцыяй Гішпанскага Нацыянальнага Радаё ў 1958-67 гг. Але тут няма віны ўкладальнікаў.

Зарэгістраваныя ў кнізе й творы паэтаў, пакладзеныя на музыку, ды адлюстраваньне асобаў і творчасьці паэтаў у мастацтве. Асобна ўлічаныя Бібліяграфіяй школьныя падручнікі й чытанкі, якія выходзілі на Захадзе, ды ў якіх перадрукоўваліся творы Купалы й Коласа для патрэбаў беларускіх школьнікаў. Зарэгістраваныя, каб задакумэнтаваць іхнае месцазнаходжаньне, рукапісы паэтаў, як і некалькі лістоў сямейнага профілю.

Замыкаецца Бібліяграфія вельмі цікавым і патрэбным з дасьледніцкага пункту гледжаньня каляндарным пералікам акадэміяў, рэфэратаў, сьвяткаваньняў і г.п., зьвязаных з Купалам і Коласам, пачынаючы ад 1914 г., калі ў Віленскай залі "Сокал" упяршыню была пастаўленая п'еса Я. Купалы "Паўлінка" і канчаючы на адзначэньні ўгодкаў Я. Купалы ў чырвені 1983 г. у Пэрце, Заходняя Аўстралія.

У кнізе зарэгістравана аж 2 340 працаў. Асноўнай думкай укладальнікаў было ахапіць бібліяграфіяй усё тое, што ня ўлічалася ранейшымі бібліяграфіямі, каб ня згубілася. Асабліва бралася пад увагу спадчына паэтаў, што выдавалася ці вывучалася без савецкае цэнзуры й хвальшаваньня. Таму Бібліяграфію гэтую можна было-б назваць: "Я. Купала і Я. Колас праўдзівыя", або "Я. Купала і Я. Колас нецэнзураваныя".

Беларуская грамадзкасьць павінна быць вельмі ўдзячная Вітаўту і Зоры Кіпелям за іхную волатаўскую, карпатлівую й самаахвярную працу, за іхны вялізарны ўклад у вывучэньне літаратурнае спадчыны гэтых беларускіх песьняроў.

Праца Алега Бембеля "Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс" была напісаная дзесьці ў 1979-81 гадох на Бацькаўшчыне. Ініцыятар і складальнік гэтае працы спадзяваўся выдаць яе легальна ў БССР, і толькі тады, калі савецкая цэнзура адкінула яе, аўтар пастанавіў пашырыць яе прыватна ў машынапіснай форме. Такім чынам, праца А. Бембеля ня ёсьць тым, што звычайна завецца "самвыдавам".

Тэма працы – сучасная моўная сытуацыя ў Беларусі й лёс беларускай мовы ўва ўмовах савецкай рэчаіснасьці. У пэўным сэнсе яна пераклікаецца з нашумеўшым у свой час самвыдавецкім "Лістом да расейскага прыяцеля", выдадзеным ЗБВБ у 1979 г. "Аднак, – як адзначаюць выдаўцы, – паводля задумы і шматграннасьці пляну, багацьця канкрэтнага матар'ялу, а таксама ўсебаковага й глыбокага насьвятленьня праблемы – яна зьяўляецца ўнікальнай і ня мае сабе адпаведніка".

А. Бембель не называе сябе аўтарам гэтае працы, уважаючы, што гэты тытул належыць дзясяткам асобаў, чые выказваньні пра мову складаюць галоўную яе частку. І запраўды, працу гэту можна разглядаць як своеасаблівае "апытаньне публічнай апініі" ў справе моўнай сытуацыі Беларусі. "Арыгінальны ўклад – складальніка, – падкрэсьліваюць выдаўцы, – апрача задумы і выкананьня, – гэта глыбокае тэаратычнае абгрунтаваньне значэньня роднай мовы ў разьвіцьці духоўнай культуры і жыцьця народу, як асобнай нацыі".

Праца (242 бачыны) канчаецца артыкулам памерлага нядаўна беларускага пісьменьніка Ўладзімера Караткевіча: "Мова, што я думаю пра цябе", у якім ён робіць аналіз некаторых больш значных выказваньняў і вызначае свае адносіны да роднае мовы.

Гэтае выданьне зробленае з фатакопіі машынапісу, якая толькі нядаўна трапіла на Захад. Беларуская грамадзкасьць павінна быць удзячная выдаўцом за зьяўленьне гэтае так цікавае і актуальнае сяньня працы А. Бембеля. Шкада толькі, што ейны аплёт з тэхнічнага гледжаньня слабаваты. Пасьля колькіразовага ўжываньня, кніга развальваецца. Але галоўнае, што яна выйшла. Яна, як і Бібліяграфія др. В. і З. Кіпеляў павінна фігураваць на прыкметным месцы на кніжных паліцах кажнага Беларуса, якому дарагая Беларусь.

На заканчэньне колькі слоў пра толькі што выдадзены зборнік дакладаў леташняй канфэрэнцыі, якая адбылася ў амэрыканскім унівэрсытэце імя Джана Карола, што ў Кліўлендзе, і якая была прысьвечаная вывучэньню гістарычнага разьвіцьця расейскае імпэрыі і Савецкага Саюзу. Матар'ялы канфэрэнцыі апублікаваныя ў кнізе п. заг. "Расейская імпэрыя. Некаторыя аспэкты царскае і савецкае каляніяльнае палітыкі". У ёй дасьледваецца гісторыя паняволеных Масквою народаў і прасочваецца каляніяльная практыка расейскага імпэрыялізму, перанятая й прадаўжаная Савецкім Саюзам.

Кніга прысьвечаная памяці выдатнага ўкраінскага гісторыка Міхайлы Грушэўскага. Адзін артыкул у зборніку якраз аналізуе пагляды Грушэўскага на гістарычнае разьвіцьцё Украіны й Беларусі. Аўтар артыкулу Любамір Вынар тлумачыць, чаму савецкія гісторыкі ставяцца супраць гістарычнае школы Грушэўскага.

Іншыя 9 артыкулаў зборніка прысьвечаныя аналізу царскай і савецкай палітыкі ў дачыненьні да паняволеных народаў СССР, у тым ліку й Беларусі. Закранутая ў асобных дасьледваньнях таксама й савецкая моўная палітыка ў нацыянальных рэспубліках, палітыка поўнасьцю русыфікацыйная.

Беларусі ў зборніку прысьвечаныя два артыкулы: праф. Мічыганскага ўнівэрсытэту Рамана Шпарлюка і др. Вітаўта Кіпеля. Дасьледваньне праф. Р. Шпарлюка азагалоўленае: "Нацыянальная гісторыя як поле палітычнага змаганьня на прыкладзе Ўкраіны й Беларусі". У ім, між іншага, аўтар піша пра беларускі характар Вялікага Княства Літоўскага.

Артыкул др. В. Кіпеля – "Беларусь пад расейскай акупацыяй: мінулае – сучаснае – будучае" аналізуе мэты і прынцыпы маскоўскай імпэрыялістычнай палітыкі ў 18-19 ст.ст. на беларускіх землях. Аўтар артыкулу паказвае, што ад самага пачатку расейскае акупацыі Беларусы супраціўляліся русыфікацыі ды што супраціў гэты трывае й цяпер.

Далей др. В. Кіпель прасочвае разьвіцьцё беларускага нацыянальнага руху, у выніку чаго ў 1918 г. была абвешчаная незалежнасьць Беларусі ў форме БНР. "Савецкая палітыка ў дачыненьні да гэтага руху, – піша аўтар, – не адрозьніваецца ад палітыкі царскага рэжыму. Пра гэта сьведчыць сыстэматычнае здушваньне беларускіх нацыянальных кадраў, навет і кадраў камуністычных ды напорная русыфікацыя ўсіх галінаў беларускае культуры, мовы, гісторыі".

Артыкул канчаецца гэткім цьверджаньнем: "Калі набліжаецца 200-гадовы юбілей акупацыі ўсяе беларускае тэрыторыі Расеяй (1795-1995) можна канстатаваць, што Расея не патрапіла асымілёваць Беларусаў, аднак савецкая імпэрыя не зьмяніла ні намераў царскае палітыкі, ні мэтадаў. Русыфікацыя застаецца адным з галоўных мэтадаў савецкага рэжыму ў захаваньні суцэльнасьці імпэрыі, хоць адначасна разьвіваецца й рост беларускіх нацыянальных кадраў".

*В. Сяньковіч*

*Нашаму выдатнаму гісторыку, вэтэрану, публіцысту й супрацоўніку "Зважай"*

*ДР. ВІКТАРУ СЯНЬКЕВІЧУ,*

якому сёлета ў лютым споўнілася 60 гадоў,

*жадаем добрага здароўя, плённай працы на фронце змаганьня за вызваленьне паняволенай Бацькаўшчыны*
і доўгіх гадоў жыцьця!

"ЗВАЖАЙ"

**********************************************

ФОНД "ЗВАЖАЙ"

Ад 20-га лютага да канца травеня сёлета на "Зважай" атрымана:
Ю. Весялкоўскі – 10.00 дал., М. Пракопчык – 10.00 дал., М. Махнач – 34.00, Я. Гавенчык (продаж) – 18.00.

На лісту ў Сыднэі (Я. Гавенчык):
Я. Гавенчык – 10.00, А. Хаванская – 5.00, А. Бакуновіч – 5.00, М. Лужынскі – 100.00, М. Антух – 10.00, А. Корзун – 5.00, Оля Качан – 20.00, С. Нарушэвіч – 30.00, А. Малецкая – 20.00, З. К. – 10.00, В. Ліпскі – 4.00, В. Русак – 10.00, С. Яраховіч – 5.00
*Разам сабрана на лісту 234 дал.*
Яшчэ атрымана: М. Скабей – 20.00, Н. Заморскі – 33.19
*Разам атрымана – 359.19 дал.* Вялікае дзякуй!

АХВЯРЫ НА ПОМНІК НА МАГІЛУ А. ГАРУНА

*Ад Суродзічаў у Сыднэі. Зьбіраў Я. Гавенчык*

Я. Гавенчык – 10.00 дал., А. Хаванская – 5.00, В. П. – 5.00, А. Смаль – 5.00, А. Бакуновіч – 10.00, М. Лужынскі – 10.00, Я. Ш. – 5.00, А. Корзун 5.00, Оля Качан – 20.00, С. Нарушэвіч – 20.00, А. Малецкая – 10.00, З. К. – 5.00, М. Сазановіч – 15.00, В. Ліпскі – 10.00, В. Русак – 5.00, С. Яраховіч – 5.00, В. Кобрын – 10.00, М. Бакуновіч – 2.00, Н. Ярашук – 10.00, М. Лаўдор – 5.00.
*Разам – 172 даляры. За шчодрыя ахвяры, а асабліва сп. Гавенчыку за руплівую працу шчыра дзякуем.*

Прысланa ў "Зважай": Аляксандар, Марыя і Леў Стагановічы – 27.00. Ім таксама вялікае дзякуй!

Да ведама ўсіх: Атрымліваем весткі, што стараньні для пабудовы помніка ідуць наперад, але, пэўне-ж, ня прывычнымі й нармальнымі для нас тэмпамі. Спадзяемся, што не за акіянам той час, калі слаўны Сын Беларускага Народу атрымае яшчэ адзін доказ заслужанай Ім пашаны ад нашых Суродзічаў, раськіданых па ўсіх закутках выгнаньня й роднай зямлі.